ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 52(5234)
Субота,
12 мая
2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## На што варта звярнуць увагу ў школе

***Я працую ў сістэме адукацыі 23 гады. Ужо шмат гадоў выкладаю прадмет "Практычнае выкарыстанне ПЭВМ" і з'яўляюся кіраўніком мастацка-прыкладнога гуртка "Пралеска" ў абласным Доме тэхнічнай і мастацкай творчасці навучэнцаў. Работу сваю вельмі люблю і аддаю ёй амаль увесь свой час.***

У нашым вучылішчы працуе дружны, творчы калектыў. І выкладчыкі, і майстры ўсёй душой аддадзеныя сваёй справе. Мы сустракаемся, дарэчы, не толькі ў рабочы час, але любая наша гутарка ў выніку ўсё роўна зводзіцца да размовы пра работу і навучэнцаў.

Нават калі не закранаць матэрыяльнае становішча настаўнікаў (а мы пакуль жывем толькі абяцаннямі лепшай будучыні), праблем у адукацыі, з майго пункту гледжання, дастаткова.

У наша вучылішча прыходзяць дзеці пераважна пасля заканчэння сярэдняй школы. І да нас ідуць не самыя слабыя. Здавалася б, у іх павінен быць адпаведны ўзровень падрыхтоўкі. А на справе аказваецца зусім інакш. У школе не закладваецца той базіс ведаў, на які можна было б абапірацца ў далейшым навучанні. Веды даюцца вельмі павярхоўныя. Як у Пушкіна — "его учили понемногу чему-нибудь и как-нибудь". І што засмучае яшчэ больш — узровень ведаў год ад году не расце, а становіцца ўсё ніжэй і ніжэй. Таму, замест таго каб даваць новыя веды, нам часта даводзіцца наганяць школьную праграму.

Зыходзячы з гэтага, мне хацелася б пагаварыць пра тое, на што варта было б звярнуць увагу ў школе.

Здароўе нашых дзяцей даўно выклікае трывогу. Прычына гэтаму — нестабільнае эканамічнае і нездаровае экалагічнае становішча. Ужо з дзіцячага садка дзеці прыходзяць у школу з мноствам захворванняў. І не кожнаму дзіцяці ўдаецца справіцца з усім аб'ёмам прадметаў і заданняў школьнай праграмы, часта не заўсёды патрэбных. На мой погляд, некаторыя прадметы можна было б лёгка выключыць са школьнай праграмы, а саму праграму спрасціць, каб не ствараць перагрузкі для дзіцячага арганізма.

Вялікую ўвагу варта было б надаць сацыяльна - псіхалагічнай службе ў школе. Дзеці ж розныя. Яны прыходзяць у школу з розных сем'яў, часта не зусім дбайных. У іх няўстойлівая псіхіка, яны не ўпэўнены ў сабе, у сваіх сілах і магчымасцях. Некаторыя здольныя, але вельмі марудлівыя. Яны не ў стане справіцца з тым патокам інфармацыі, які абрушваецца на іх з першых жа дзён. І калі да іх не знайсці індывідуальны падыход, то такія дзеці, застаючыся адзін на адзін са сваімі праблемамі, аказваюцца сярод адстаючых. Вось тут і павінен прыйсці на дапамогу не выкладчык-прадметнік, які перавучыўся на двухтыднёвых курсах, а высокакваліфікаваны псіхолаг, які ведае ўзроставыя і псіхалагічныя асаблівасці дзяцей і здольны дапамагчы кожнаму з іх. Таму неабходна стварыць умовы для работы псіхолага: асобны ўтульны кабінет, аснашчаны спецыяльнай літаратурай і сучасным камп'ютэрам з прадуманымі праграмамі тэсціравання.

Яшчэ хацелася б сказаць аб прафарыентацыі ў школе. На мой погляд, у старэйшых класах навучанне павінна падзяляцца на два напрамкі: гуманітарныя навукі і прыродазнаўчыя. Навошта маладому чалавеку гуманітарнага складу розуму мучыць сябе вышэйшай матэматыкай, якая яму ніколі не спатрэбіцца? Ці не лепш у гэты час надаць увагу больш глыбокаму вывучэнню тых прадметаў, якія яму спатрэбяцца пры паступленні ў ВНУ? Часта здараецца, што падлетку цяжка вызначыцца з выбарам будучай прафесіі. І ў гэтым выпадку яму мог бы дапамагчы псіхолаг, пры наяўнасці добрых прафарыентацыйных камп'ютэрных тэстаў.

Асаблівую трывогу выклікае катастрафічны рост непісьменнасці і бездухоўнасці. Грубая сіла пераважае над далікатнасцю і высакароднасцю. Страчаны нацыянальныя каштоўнасці, якія так захоўвалі нашы продкі. І самае страшнае — знікае родная мова: няма ні чыста беларускай, ні рускай мовы, адзін слэнг з прымессю жаргонных слоў.

А маладое ж пакаленне — наша будучыня. Нездарма гавораць: "Што пасееш, тое і пажнеш". І ў сувязі з гэтым наспела вострая неабходнасць надаць асаблівую ўвагу такім прадметам як родная мова, этыка, эстэтыка.

Мы павінны вырасціць годнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь: здаровага, пісьменнага, ініцыятыўнага, высокакультурнага, які б любіў сваю краіну, паважаў яе традыцыі і мову. Мы павінны не прыглушаць, а заахвочваць індывідуальнасць, вучыць самастойна разважаць, прымаць рашэнні і несці за іх поўную адказнасць. На жаль, у нас у школе гэтаму не вучаць. Прасцей жа стрыгчы ўсіх пад адзін грэбень. Клопату менш. Наша грамадства занепакоена ростам злачыннасці і правапарушэнняў сярод падлеткаў, павялічваецца колькасць наркаманаў і ВІЧ-інфіцыраваных. Маладое пакаленне часта застаецца адзін на адзін з сабой і сваімі праблемамі, не заўсёды ўмеючы адрозніць сапраўдныя каштоўнасці ад уяўных. А прырода не церпіць пустаты. І калі своечасова не зацікавіць падлетка, не ўбачыць у яго душы прыгожы парастак, то замест нас гэта зробіць вуліца. Таму школа не павінна выпіхваць дзяцей на вуліцу пасля ўрокаў. Там, у двары, за іх ніхто не адказвае. Сёння прынята на ўсе лады ахайваць савецкія часы. А памятаеце, як тады была пастаўлена пазакласная работа? Існавала мноства гурткоў, студый, спартыўных секцый, клубаў па інтарэсах (бясплатных!), дзе дзіця магло знайсці сябе. Часта менавіта ў гэтых студыях і гуртках адкрываліся сапраўдныя таленты. Няма ж зусім неталенавітых дзяцей. Ёсць дзеці запушчаныя ці нікому не патрэбныя, якія растуць як прыдарожная трава. Кожны чалавек нараджаецца мастаком і творцам. Паглядзіце на маленькіх дзетак, на іх гульні — гэта ж творчы асобы. І наша задача — дапамагчы маленькаму чалавеку гэтае цудоўнае ўспрыманне свету пранесці праз усё жыццё, не страціць цудоўны дар бачыць прыгажосць, умець радавацца ёй, ствараць яе сваімі рукамі.

Ужо шмат гадоў я вяду мастацка-прыкладны гурток "Пралеска". Профіль у нас даволі шырокі: фларыстыка, мяккая цацка, кветкавы дызайн. Але галоўная мая мэта — навучыць дзяўчынак бачыць і цаніць прыгажосць. Як сказаў У.Сухамлінскі: "Спыніся ў здзіўленні перад прыгажосцю, і ў тваім сэрцы расцвіце прыгажосць". Займаючыся фларыстыкай, творча працуючы з прыродным матэрыялам, набываеш быццам другі зрок, пачынаеш адчуваць сябе часцінкай прыроды, больш эмацыянальна ўспрымаць яе, беражліва да яе ставіцца. Чалавек, які стварае і шануе прыгажосць, не стане яе знішчаць.

А праз любоў да роднай прыроды выхоўваецца і любоў да Радзімы.

**Г.КАРКАНІЦА,**
**выкладчыца ПТВ-74 Гродна.**

4 мая Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка правёў нараду па пытанні арганізацыі і правядзення ўступных экзаменаў у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы рэспублікі ў 2001 годзе.
НА ЗДЫМКАХ: выступае Аляксандр Лукашэнка; падчас работы нарады.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА.**

Фестывалі

## Жывая вада дружбы

***У Гомельскім абласным Палацы творчасці дзяцей і моладзі адбыўся II Міжнародны фестываль дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў Беларусі, Расіі і Украіны "Жывая вада дружбы".***

У ім прынялі ўдзел 17 дэлегацый, прадстаўнікі сучаснага дзіцячага руху трох брацкіх славянскіх дзяржаў. Найбольш значным быў удзел міратворчых дзіцячых аб'яднанняў — клубаў ЮНЕСКА і міжнароднай дружбы. У фестывалі ўдзельнічалі таксама піянеры, гайды, члены БСМ.

ААН абвясціла 2001-2010 гады Міжнародным дзесяцігоддзем культуры міру і ненасілля ў інтарэсах дзяцей планеты. У рамках гэтага дзесяцігоддзя пачалася першая міжнародная акцыя новага тысячагоддзя — Глабальны рух у інтарэсах дзяцей.

Фестываль "Жывая вада дружбы" — прыклад міратворчай акцыі, якая спрые рэалізацыі мэтаў гэтага руху. Яго дэвіз: "Да міру і згоды ў XXI стагоддзі".

Пры падрыхтоўцы фестывалю былі вызначаны наступныя мэты і задачы: садзейнічанне станаўленню культуры міру на рэгіянальным і міжнародным узроўнях; развіццё і ўмацаванне творчых кантактаў і супрацоўніцтва дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў Гомельскай, Бранскай, Чарнігаўскай і Жытомірскай абласцей; абмен інфармацыяй аб міратворчых акцыях і распрацоўка сумесных праектаў.

Узрост удзельнікаў (14-16 гадоў) вызначыў актыўны творчы характар спраў, уключаных у праграму фестывалю, які доўжыўся чатыры дні.

Адразу ж пасля яркага і эмацыянальнага адкрыцця пачалася ролевая гульня "Ратаўнікі XXI стагоддзя". Яна працягвалася амаль два дні. У ёй удзельнічалі прадстаўнікі сямі "планет", якія распрацавалі праекты, накіраваныя на абарону і захаванне зямной цывілізацыі. Назвы гэтых "планет" глыбока сімвалічныя — "Мір", "Культура", "Каханне", "ЗЛЖ" ("Здаровы лад жыцця"), "Эка", "НіА" ("Навука і адукацыя"), "МаТаіЯ" ("Мама, тата і я").

Экіпаж планеты "НіА" складаўся толькі з кіраўнікоў дэлегацый. Членамі астатніх экіпажаў былі дзеці. Куратары "планет" — прадстаўнікі клуба ЮНЕСКА "Дружба" (Гомельскага абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі) Дзяніс Іваноў, Андрэй Расафонаў, Юля Свешнікава, Косця Семяненка, Ліля Вавілава, Маша Сярова, Віка Арлова і Насця Падрубная — арганізавалі распрацоўку праграмы выратавання Зямлі. (Напярэдадні фестывалю ў клубе быў праведзены трэнінг "Роўны навучае роўнага".)

На кожнай "планеце" былі праведзены гульні, мэтай якіх было знаёмства, зняцце напружання і стварэнне спрыяльнай атмасферы. Потым пачаліся абмеркаванне праблем, падрыхтоўка праграмы выступлення на міжпланетнай канферэнцыі. Падчас прэзентацыі гэтых праграм прагучала шмат парад, прапаноў у прозе і вершах, выкананне якіх дапамагло б выратаваць зямную цывілізацыю.

Ролевая гульня аб'яднала і пасябравала прадстаўнікоў розных краін, гарадоў і пасёлкаў, дала магчымасць пазнаць адзін аднаго.

Насычаным быў трэці дзень фестывалю. З раніцы госці адправіліся на экскурсіі па Гомелі, агледзелі і палацава-паркавы ансамбль. Потым пачалася работа Акадэміі міру. Гэта адукацыйна-развіццёвыя секцыі, праца якіх была скіравана на вырашэнне той ці іншай праблемы. На занятках дзеці і дарослыя мелі магчымасць набыць карысныя навыкі, атрымаць цікавую інфармацыю па праблемах культуры міру.

Якая была тэматыка Акадэміі міру? Працавалі сем секцый — "Свет клуба ЮНЕСКА", "Канфліктaлогія", "Правы дзіцяці", "Узаеміны культур", "Ідэальны лідэр", "Прафілактыка ВІЧ-СНІД", "Гульні ад А да Я". Вось некалькі водгукаў аб дзейнасці секцый, змешчаных у выпуску прэс-цэнтра: "Канфліктaлогія" — класны трэнінг. Юля і Насця — малайцы!", "Узаеміны культур" — проста супер! Дзякуй!"; "Усё было цудоўна, але мала часу!"; "Гульні ад А да Я" — вы прафесіяналы!".

У ролі куратараў секцый выступалі ўдзельнікі клуба ЮНЕСКА "Дружба". Менавіта на іх адрас прагучалі вось такія словы: "Усё было вельмі класна, асабліва куратары".

Пасля Акадэміі міру пачалася работа творчых майстэрняў "Мірны далягляд". Усе ўдзельнікі працавалі на пяці пляцоўках. Спачатку было праведзена апытанне "Ці магчымы мір без вайны і насілля?". Адно з пытанняў гучала так: "Што вы асабіста можаце зрабіць для дасягнення міру і пераадолення насілля?" Вось некалькі адказаў на гэтае пытанне:

"Не ўступаць у канфлікты. У вырашэнні ўсіх праблем знаходзіць кампраміс..."; "Пастараюся зразумець іншых людзей"; "Пераконваць іншых, што насілле — не шлях вырашэння праблем"; "Удзельнічаць у такіх акцыях...", "Рабіць дабро, якога так не хапае ў нашым зласлівым свеце!"; "Разумець, бачыць, дзейнічаць і не сядзець склаўшы рукі".

На жаль, былі і такія адказы як: "Не ведаю", "Пакуль нічога", "Я асабіста зрабіць нічога не магу, а разам мы можам многае!".

Творчая майстэрня "Мірны далягляд" праводзілася з мэтай распрацоўкі праектаў міратворчых акцый. Прэзентацыя гэтых праектаў адбылася ў апошні дзень фестывалю. Аўтары — дэлегацыі бранскага гарадскога Палаца дзіцячай і юнацкай творчасці, клуб "Славяне" (Кругавец-Калініна Гомельскай вобласці), клуб "Лідэр" (Гомель) і клуб ЮНЕСКА "Дружба" (Гомель). Каманда, у склад якой уваходзілі клуб "Юнацтва Палесся" (Жытомір), дэлегацыя БСМ і гайдаў (Гомель), распрацавала праект "Мой любімы горад" (дзеці прапануюць знайсці больш сродкаў для асвятлення вуліц у вячэрні і начны час, што будзе спрыяць паніжэнню ўзроўню злачыннасці, а таксама дасць магчымасць павялічыць колькасць рэабілітацыйных цэнтраў для наркаманаў і алкаголікаў). Не менш цікавымі былі праекты "Без гісторыі няма будучыні", "Зялёнае дрэва", "Вайна з вайной", "Навучанне міру", "Міжнародны палатачны летнік".

Для ўдзельнікаў Міжнароднага фестывалю была падрыхтавана выдатная культурная праграма. Яны паглядзелі спектакль "Жыццё" ўзорнага дзіцячага эксперыментальнага тэатра "Сінтэз" (мастацкі кіраўнік В.П.Курдзюмаў), удзельнічалі ў свяце славянскіх культур, у якім выступаў дзіцячы фальклорны калектыў "Калінка" з Бранска і г.д.

Чацвёрты дзень работы фестывалю — дзень закрыцця, дзень развітання. Стомленыя, шчаслівыя, на сцэну падымаюцца члены клуба ЮНЕСКА "Дружба" Гомельскага абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі. Менавіта дзякуючы іх працавітасці, фантазіі, энтузіязму ўдалося гэтае свята міру, напоўненае радасцю ўзаемінаў і супрацоўніцтва. Гучаць словы гімна сустрэч клубаў ЮНЕСКА: "Если дружба есть, она навечно...". Актыўныя ўдзельнікі фестывалю ўзнагароджваюцца спецыяльнымі дыпломамі, сувенірамі.

Да пабачэння, II Міжнародны фестываль дзіцячых аб'яднанняў Беларусі, Расіі і Украіны "Жывая вада дружбы"!

Да сустрэчы на III фестывалі "Жывая вада дружбы"!

**Людміла КУЛІК,**
**метадыст Гомельскага абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі.**

Навіны

### Марш міру-2001

***Напярэдадні Дня Перамогі з нагоды пяцігоддзя Саюза Беларусі і Расіі, 40-годдзя Фонду міру і 60-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны прайшоў 12-ы Міжнародны марш міру-2001 Курск-Гомель-Мінск.***

Арганізатарамі маршу выступілі Курскае абласное ўпраўленне Расійскага фонду міру, Беларускі фонд міру, Курскае абласное аддзяленне Міжнароднага фонду славянскага пісьменства і культуры, рабочая група рэдкалегіі абласной кнігі "Памяць" Курска, Курскае епархіяльнае ўпраўленне, а таксама Камітэт па справах моладзі і турызму і адміністарцыя Курскай вобласці, Курская абласная дума.

Старт маршу міру пачаўся з мітынгу ля мемарыяла памяці ў Курску, дзе ўдзельнікі яго, яны ж і арганізатары, усклалі вянкі і кветкі на магілы загінуўшых воінаў. Сустрэўшыся ў Гомелі з прадстаўнікамі мясцовага аддзялення фонду, міратворцы накіраваліся ў сталіцу нашай краіны, дзе іх прымалі настаўнікі і вучні сярэдняй школы № 137 імя П.М.Машэрава.

Яшчэ перад паездкай у Мінск куране пажадалі наведаць менавіта гэтую школу, каб атрымаць найбольш поўную інфармацыю пра жыццё і дзейнасць Пятра Міронавіча. Як сказала дырэктар установы Маргарыта Мікалаеўна Саўчык, госці былі задаволены наведаннем школьнага музея П.М.Машэрава. Моцнае ўражанне пакінуў і другі музей — "Дзеці вайны", у якім прадстаўлены матэрыялы пра былых непаўналетніх вязняў канцлагераў.

**Сумесны канцэрт-акцыя "Мы — разам"**, у якім удзельнічалі і беларусы, і расіяне, аб'яднаў усіх прысутных. А напрыканцы госці прапанавалі педагогам і вучням школы прыняць удзел у маршы міру наступнага года, які пройдзе па гарадах і сёлах Украіны. Мы абавязкова сустрэнемся зноў, каб яшчэ раз пераканацца: "Мы — адзін народ, мы — разам, мы — браты і сёстры...", — казалі куране.

### Сустрэча з ветэранамі

***8 мая ў Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь сабраліся ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, якія ў свой час працавалі ў Міністэрстве асветы, Дзяржаўным камітэце па прафтэхадукацыі і ў Міністэрстве вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.***

Перад ветэранамі выступіў міністр адукацыі Васіль Стражаў. **Ён выказаў шчырую ўдзячнасць тым, хто рызыкуючы сваім жыццём, набліжаў дзень перамогі.**

З віншавальнымі словамі звярнуўся да старэйшых калег начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Георгій Бутрым.

Клуб аўтарскай песні "Пегас" Цэнтра мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" падрыхтаваў для шаноўных гасцей канцэрт. Песні ваеннай тэматыкі не пакінулі раўнадушнымі нікога. Слёзы радасці ад сустрэчы з сябрамі і калегамі, успаміны, шчырыя віншаванні і падарункі сведчылі пра тое, што свята ўдалося на славу.

**Вольга ДУБОВІК.**

Супрацоўніцтва

### Беларускія вучоныя-педагогі — члены Расійскай акадэміі адукацыі

Беларуска-расійская інтэграцыя закранае не толькі эканамічную ці прамысловую сферы. Нядрэнна развіваецца супрацоўніцтва ў галіне адукацыі, педагогікі, навуковай дзейнасці. Беларускія вучоныя добра вядомыя ў навуковых колах сваіх расійскіх калег. Іх наватарскія ідэі, цікавыя навуковыя распрацоўкі знаходзяць добразычлівы водгук. У красавіку 2001 года замежнымі членамі Расійскай акадэміі адукацыі абраны рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка прафесар Л.М.Ціханаў і рэктар Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі прафесар А.Х.Шкляр. Як адзначаецца ў тэлеграме, падпісанай прэзідэнтам Расійскай акадэміі адукацыі Н.Д.Нікандравым, гэта вынік іх заслуг у галіне навукі і адукацыйнай дзейнасці.

Семінары

### Вышэй усякіх чаканняў

***На сёлетніх вясновых канікулах некаторым настаўнікам гісторыі Мінска і вобласці надзвычай пашанцавала — чатыры дні яны былі ўдзельнікамі цікавага семінара "Міжкультурная адукацыя ў працэсе навучання ў школе".***

Некаторыя з нас прыехалі на семінар з пачуццём лёгкага скепсісу: а ці такая ўжо актуальная тэма для нашай школы?

Але тое, што мы ўбачылі і пачулі, пераўзышло ўсе нашы чаканні. Маладыя навукоўцы-гісторыкі Дзмітрый Карпіевіч, Уладзіслаў Вялічка і Сяргей Лабода стварылі атмасферу добразычлівасці і творчасці з першай жа хвіліны нашай сумеснай працы. Цікавыя формы знаёмства ("Карта Мінска", гульня "Знайдзі таго, хто...", гульня "Мая гісторыя") змяняюцца групавой працай па вызначэнні намі самімі праблемы "Што такое міжкультурная адукацыя". Аказваецца, складаныя тэарэтычныя праблемы можна вырашаць так нязмушана, лёгка і весела. Потым былі гульні "Дарогай развіцця", "Бафа-Бафа", групавая работа "Мазаіка", дыскусія "Так і не", праца ў парах "Канцэнтрычныя колы". Мы даведаліся, што такое метад "мазгавога штурму", "рэфлексіўнае кола", "актыўная лекцыя". І налічылі пры падвядзенні вынікаў 23 формы і метады, выкарыстаныя нашымі трэнерамі ў ходзе працы. Большасць з іх новыя, невядомыя для нас. Усе гэтыя формы працы былі актыўнымі, кожную справу мы абмяркоўвалі — што спадабалася, што не, як гэта можна прымяніць у школе. Чацвёрты дзень семінара быў прысвечаны праектнай дзейнасці ў групах.

Пры падвядзенні вынікаў дзейнасці ўсе ўдзельнікі семінара прызналі каштоўнасць гэтага мерапрыемства.

Кожны ўдзельнік семінара бясплатна атрымаў метадычныя распрацоўкі гульняў і кнігу "Інавацыйныя метады навучання ў грамадзянскай адукацыі", якую напісаў калектыў аўтараў, і ў тым ліку Уладзіслаў Вялічка і Дзмітрый Карпіевіч — нашы настаўнікі-трэнеры. Іх крэда: "Дапамажы іншаму штосьці зрабіць самому". Гэты семінар сапраўды дапаможа нам, настаўнікам, самім палепшыць сваю працу, зрабіць яе больш выніковай і цікавай.

**Наталля ІЛЬІНІЧ,**
**настаўніца гісторыі і геаграфіі Талькаўскай сярэдняй школы Пухавіцкага раёна.**

### Аб'ява

На базе Акадэміі паслядыпломнай адукацыі 7-12 чэрвеня 2001 г. для загадчыкаў аддзелаў адукацыі і навучальна-метадычных кабінетаў, для кіраўнікоў навучальных устаноў розных тыпаў праводзяцца аўтарскія курсы доктара педагагічных навук П.І.Трацякова (Масква) "Кіраванне якасцю адукацыі".

*Даведкі па тэлефоне: 285-78-23.*

### Ганаровае званне

Баранавічы названы лепшым горадам Брэсцкай вобласці ў вырашэнні задач развіцця адукацыі. Гэта ганаровае званне горад атрымаў па выніках абласнога конкурсу, якія былі падведзены на калегіі ўпраўлення адукацыі Брэсцкага аблвыканкама 27 красавіка.

**Святлана СУБОЦІНА.**

### English Tenses

У школы Беларусі рассылаецца камплект табліц пад гэтай агульнай назвай. Але большасці настаўнікаў англійскай мовы гэты дапаможнік яшчэ невядомы. Ён быў разгледжаны і адобраны Метадычнай камісіяй Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, якое даручыла Цэнтру вучэбнай кнігі і сродкаў навучання даць аб ім інфармацыю па Беларусі. Дапаможнік мае эксперыментальны характар, бо ў ім рэалізаваны некаторыя нетрадыцыйныя метадычныя падыходы і ідэі. Табліцы рассылаюцца аўтарам, каб пазбавіць школы ад лішніх цэнавых накрутак у магазінах і наладзіць кантакт аўтара з настаўнікамі.

Гутаркі аўтара з настаўнікамі паказалі, што яны часта не могуць пераадолець педагагічныя стэрэатыпы мінулых гадоў, не ўнікаюць у спецыфіку дадзенага дапаможніка. Былыя ж табліцы складаліся проста з прыкладаў, якія дапамагалі настаўніку тлумачыць новую тэму па граматыцы.

Камплект табліц English Tenses — гэта перш за ўсё **моўны трэнажор**!

Патлумачым некаторыя яго асаблівасці і навучальныя магчымасці.

1. У дапаможніку рэалізавана ідэя навучання замежнай мове на вялікім інфармацыйным полі, на поўным камплекце ўсіх табліц адразу. Іх варта размясціць у кабінеце ці класе стацыянарна і выкарыстоўваць для рэгулярнага звароту да іх настаўніка і вучняў на розных этапах засваення матэрыялу і з рознымі метадычнымі мэтамі. Напрыклад, вялікі матэрыял дае магчымасць весці навучанне па замкнутых дыдактычных цыклах — "уводзіны — замацаванне — ужыванне" з неадкладным выхадам тэмы ў практыку мовы і адначасова пазбегчы страты навыкаў мовы.

2. Камплект табліц у кабінеце — гэта "насценны самавучыцель" для вучняў. Яны бяруць з яго патрэбную інфармацыю і спосабы яе выкарыстання. Але спачатку сам настаўнік павінен дапамагчы ім засвоіць тэхналогію саманавучання па такіх табліцах. У дадатку да дапаможніка даюцца і рэкамендацыі для вучняў.

3. Табліцы забяспечваюць прафілактыку граматычных памылак у сістэме часавых форм англійскага дзеяслова, гэта — сістэма падказак, апор і ключоў. Інтэнсіўная ж моўная трэніроўка мае сэнс толькі тады, калі гарантуецца беспамылковасць, імгненная карэкціроўка мовы вучня, інакш гэтыя памылкі, асабліва ў дзеяслоўных формах, замацоўваюцца.

4. Названыя захады ў фармалізацыі граматычнага аналізу англійскага сказа і выказванняў на роднай мове спрошчваюць навучанне і развіваюць больш абстрактнае моўнае мысленне вучня, дапамагаюць яму навучыцца выкарыстоўваць гэтыя захады для стварэння сваёй уласнай замежнай мовы на любую тэму і на базе любога слоўнікавага спісу аж но да прафесійнай тэрміналогіі студэнта тэхнікума, ВНУ ці менеджэра.

5. У камплект уключаны сігнальныя карткі, якія могуць павысіць кіруемасць навучальнага працэсу ў класе, асабліва ў пачатковай школе.

6. Калі выкарыстоўваць асабістыя плееры вучняў для гукавых практыкаванняў з апорай на камплект табліц як на універсальны ключ, можна любы клас ператварыць у спрошчаны лінгафонны кабінет, дапамагаючы інтэнсіфікаваць працэс вуснамоўнай трэніроўкі з простай і даступнай тэхнікай.

7. Камплект табліц English Tenses, які стымулюе саманавучанне вучняў, значна палягчае працу настаўніка па няспынным выпраўленні "вечных" граматычных памылак нашых вучняў. Але спачатку трэба дапамагчы вучням прайсці шлях стварэння ўласнай мовы па-англійску ад павольнага, удумлівага фармулявання сваіх выказванняў у простых пісьмовых сачыненнях з няспыннай карэкціроўкай па табліцах да хуткаснага жывога аповеду ці дыялогу з таварышам пры мінімальных падказках табліц.

Аўтар жадае сваім калегам вялікіх поспехаў у нашай такой важнай і цікавай рабоце і чакае ад іх любой інфармацыі пра свой дапаможнік!

**Аляксей УДАЛЬЕЎ,**
**кандыдат педагагічных навук.**

# Грамадзянская адукацыя ў дэмакратычным грамадстве

Праблемы грамадзянскай адукацыі сталі моднай тэмай навуковых і газетных публікацый. Пра іх гавораць на канферэнцыях і ў аўдыторыях, у "калідорах улады" і ў радах апазіцыі. Дзяржава і грамадзянскае грамадства спадзяюцца на выхаванне грамадзяніна і грамадзянскасці. Усе "за" і нікога "супраць" — да таго часу, пакуль гаворка не заходзіць пра змест, канкрэтныя формы і метады гэтага працэсу. Тады ж і высвятляецца, што грамадзянская адукацыя не ёсць нешта само сабой зразумелае. У залежнасці ад тыпу грамадства і дзяржавы перад імі могуць стаяць розныя, часам узаемавыключальныя, задачы. Неразуменне гэтага моманту перашкаджае распрацоўцы канцэпцыі грамадзянскай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь, уносіць разнагалосіцу ў тлумачэнне яго мэт і задач. Многія вучоныя і педагогі ўкладваюць у гэта паняцце (часам зусім несвядома) прама процілеглы змест. Патрэбны дакладныя крытэрыі, якія даюць магчымасць вызначыць асаблівасці грамадзянскай адукацыі ва ўмовах прававой дэмакратычнай дзяржавы і яе прынцыповыя адрозненні ад выхавання грамадзянскасці ва ўмовах аўтарытарнай і таталітарнай сістэмы ўлады. Без гэтага немагчыма зразумець, што новае нясе ў сабе задача выхавання грамадзяніна ў сучасных умовах. Напрыклад, у параўнанні з назапашаным за гады савецкай школы вопытам выхавання "новага" чалавека.

Канцэпцыя грамадзянскай адукацыіі грунтуецца на прызнанні пэўнай сістэмы каштоўнасцей. У дэмакратычным грамадстве яны абазначаны даволі выразна — дэмакратыя, свабода, роўнасць, сацыяльная справядлівасць, правы чалавека. Канкрэтны змест і задачы грамадзянскага выхавання раскрываюцца праз шэраг больш канкрэтных паняццяў і катэгорый. Аднак большасць з іх, нягледзячы на вонкавую прастату, не мае адназначнага тлумачэння. Іх сэнс залежыць ад каштоўнасных арыентацый таго, хто іх выкарыстоўвае. У дыскусіях, прысвечаных распрацоўцы канцэпцыі грамадзянскай адукацыі ў краіне, гэта прыводзіць да таго, што ўдзельнікі іх гавораць на розных мовах. "Падводныя камяні", якія перашкаджаюць узаемаразуменню, — гэта рознačытанні ў тлумачэнні базавых для ўсёй сістэмы грамадзянскай адукацыі паняццяў. Сярод іх такія, як "грамадзянін", "грамадзянскасць", "асоба", "патрыятызм", "дзяржава". Што гэта за рознačытанні і якія ж супярэчнасці яны утрымліваюць у сабе?

## Грамадзянін

Паняцце "грамадзянін", як і паняцце "грамадзянства", адлюстроўвае характар палітыка-юрыдычнай сувязі, якая ўзнікае паміж індывідам і дзяржавай ва ўмовах рэспубліканскай формы праўлення. Гэтая сувязь вызначае іх правы і абавязкі ў адносінах адзін да аднаго. Перш за ўсё абавязак грамадзяніна — прытрымлівацца законаў дзяржавы і выкарыстоўваць свае правы на ўдзел у грамадскіх і дзяржаўных справах. Само паняцце "рэспубліка" гаворыць пра роўныя магчымасці ўсіх грамадзян па кіраванні дзяржавай. Не ўсе дзяржавы, якія называлі сябе так, адпавядалі гэтаму патрабаванню. Часта, як яно было і ў СССР, гэта права толькі дэкларавалася. Галоўнай задачай грамадзянскай адукацыі было выхаванне законапаслухмянага грамадзяніна. Упор рабіўся на яго абавязках, пачуцці абавязку, патрыятызме. Залішняе акцэнтаванне на правы асобы было не ў пашане і разглядалася як "качанне правоў". Дэмакратызацыя грамадства патрабуе напаўнення паняцця "грамадзянін" яго сапраўдным зместам. Галоўнай задачай грамадзянскай адукацыі становіцца выхаванне суверэннага грамадзяніна і дэмакратычнай грамадзянскасці. Гэта азначае рэальную далучанасць індывіда да прыняцця жыццёва важных для яго дзяржаўных рашэнняў, а таксама магчымасць атрымання неабходных для гэтага ведаў і ўменняў. Грамадзянін павінен мець уяўленне пра механізмы функцыянавання дэмакратыі, ведаць асноўныя палажэнні Канстытуцыі, свае правы, свабоды і абавязкі, умець імі карыстацца і адстойваць іх.

> *Стаць асобай у дэмакратычным грамадстве — значыць набыць аўтаномію, самастойнасць ва ўсіх сферах сваёй жыццядзейнасці.*

## Асоба

Асоба — гэта не проста асобна ўзяты індывід. Каб стаць асобай, неабходна прайсці шлях духоўна-маральнага сталення, ці, як кажуць сацыёлагі, сацыялізацыі. Па меры далучэння да дарослага жыцця малады чалавек вучыцца сувымяраць свае інтарэсы з інтарэсамі калектыву, грамадства. Да яго прыходзіць пачуццё адказнасці за свае ўчынкі, за ўсё, што адбываецца навокал. Падобнае тлумачэнне паняцця "асоба" вядома кожнаму настаўніку. Прыкладна ў гэтым ключы трактавала яго і савецкая педагогіка. Аднак сёння гэтага мала. Разуменне асобы ва ўмовах дэмакратыі мае свае асаблівасці. Усведамленне сябе як часткі грамадства і здольнасць ахвяраваць сваімі інтарэсамі дзеля грамадскіх — гэта важная, але не вызначальная яе характарыстыка. Стаць асобай у дэмакратычным грамадстве — значыць набыць аўтаномію, самастойнасць ва ўсіх сферах сваёй жыццядзейнасці. Самастойнасць асобы — гэта, гаворачы словамі вядомага філосафа, яе здольнасць быць гаспадаром самога сябе. Асоба — гэта чалавек, здольны самастойна будаваць сваю жыццёвую стратэгію і тактыку, вырашаць праблемы зыходзячы з уласнага жыццёвага вопыту і каштоўнасных арыентацый. Гэта датычыцца яго сям'і, уласнасці, выбару сяброў, веравызнання, маралі, удзелу ў палітыцы і многага іншага.

Таталітарная і аўтарытарная дзяржавы не прызнаюць за грамадзянамі правоў на падобную аўтаномію. Адсюль імкненне рэгламентаваць жыццё кожнага індывіда ўсемагчымымі ўказамі, пастановамі, прадпісаннямі. У працэсе выхавання асобы першачарговая ўвага тут надаецца маральна-этычнай праблематыцы. Прыкладам гэтаму можа быць Маральны кодэкс будаўніка камунізму. Аднак нягледзячы на строгасць маральных прадпісанняў "гарманічна развітая асоба" заставалася залежнай ад "бацькі нацыі". У сваіх учынках чалавек пастаянна азіраўся на "мудрага кіраўніка". Дэмакратыя, наадварот, патрабуе ад індывіда здольнасці да самастойных рашэнняў і адказнасці за іх. Суверэнны грамадзянін вызвалены ад дробязнай апекі з боку дзяржавы. Яму гарантаваны свабода прадпрымальніцтва, ініцыятывы, творчасці. Чалавеку забяспечаны шырокія правы на ўдзел у палітычным, эканамічным, культурным жыцці краіны, у тым ліку і права на памылку. Чалавек, які робіць выбар (ці то кандыдата ў парламент ці тавар на рынку), сам пажынае вынікі ўласных пралікаў. Самастойнасць асобы — гэта не толькі гарант яе паўнацэннага існавання і развіцця, але і неабходная ўмова захавання і развіцця дэмакратыі. Правы асобы, рынчная эканоміка, дэмакратычныя выбары не дасягаюць мэты, калі няма таго, хто гатовы гэтымі правамі скарыстацца.

Іншая справа — так званы "апякаемы індывід". Яго жыццё мае пэўныя перавагі, паколькі пазбаўляе яго неабходнасці думаць і рашаць. Заўсёды ёсць той, у каго гэта атрымліваецца лепш — бацькі, школа, начальнік на працы, палітычны лідэр. Тым больш што ў выпадку няўдачы заўсёды ёсць магчымасць спаслацца на таго, хто прымаў рашэнне. Падобны лад жыцця быў характэрны для мільёнаў савецкіх людзей, пазбаўленых права на самастойнасць. Адсутнічалі цэлыя сферы грамадскага жыцця, дзе самастойнасць можна было б праяўляць — палітыка (як сфера свабоднага выбару), эканоміка (як сфера эканамічнай свабоды), культура (як сфера свабоднай творчасці). Іх рэанімацыя ў постперабудовачны перыяд прывяла да таго, што масы ўсё сваё свядомае жыццё апякаемых дзяржавай індывідаў аказаліся ў стане беспаможнасці. Жыццё ва ўмовах рынку патрабуе ад іх таго, да чаго яны аказаліся не здольны — да ўласных рашэнняў, актыўнасці, самастойнасці. Для іх больш спакойным і, адпаведна, лепшым быў той час, калі карціна свету была яснай і празрыстай. Калі замест выбару тавараў і паслуг людзі былі заклапочаны іх наяўнасцю ці адсутнасцю. Калі замест выбару палітычнага лідэра, партыі, ідэалогіі галоўным было праяўленне шчырай адданасці камуністычнай партыі і яе кіраўнікам. У аснове такой пазіцыі мае месца феномен, які вядомы заходні філосаф Э.Фром ахарактарызаваў як "уцёкі ад свабоды", ад неабходнасці рабіць выбар. Па сутнасці гэта не што іншае, як уцёкі ад неабходнасці быць асобай.

Сіндром "апякаемага" індывіда мае месца і ў краінах развітай заходняй дэмакратыі. Поспехі ў будаўніцтве так званай сацыяльнай дзяржавы, якая ставіць сваёй задачай забеспячэнне ўсіх грамадзян годнымі ўмовамі існавання, нарадзілі масавы настрой утрыманства і пасіўнасці. Прынамсі, гэта можна назіраць сярод тых грамадзян, якія не разлічваюць на поспех у канкурэнтнай барацьбе. Паявілася даволі шматлікая група працаздольных людзей, якія звыкліся са сваім сацыяльным становішчам і згодных жыць на дзяржаўную дапамогу, адмовіўшыся ад пошуку працы, ад кар'еры, прэтэнзій на заможнасць.

## Грамадзянскасць

З-за сваёй шматзначнасці і няпэўнасці паняцце "грамадзянскасць" часцей за іншых аказваецца ўцягнутым у сферу палітычных і ідэалагічных спекуляцый. Ва ўмовах аўтарытарнай формы кіравання яно часцей за ўсё зводзіцца да лаяльнасці ў адносінах да дзяржаўнай улады, безагаворачнай падтрымкі яе палітыкі. У аснове такога падыходу ляжыць разуменне дзяржавы як нейкай пазачасавай, надперсанальнай сутнасці, якая паглынае і падначальвае сабе індывіда. Чалавек не можа існаваць без дзяржавы, і з гэтым цяжка спрачацца. Яна ўвасабляе ў сабе ідэю "агульнага шчасця". У адрозненне ад любой іншай арганізацыі, яна адлюстроўвае інтарэсы не якой-небудзь асобнай групы, а грамадства ўвогуле. Адсюль робіцца выснова аб прыярытэце дзяржавы над правамі асобы. Грамадзянін разглядаецца як уласнасць дзяржавы. Адносіны паміж імі будуюцца па прынцыпе суверэнітэту: "абараняю — значыць падначальваю". Улада забяспечвае індывіду ўнутраную і знешнюю бяспеку, за гэта яна патрабуе ад яго безагаворачнай падтрымкі і адданасці. Пры такім падыходзе сістэма грамадзянскай адукацыі арыентуецца на выхаванне грамадзяніна, здольнага ставіць грамадскія, калектыўныя інтарэсы вышэй асабістых. На першым месцы — грамадзянскі абавязак і абавязкі перад грамадзянскай супольнасцю, якая разумеецца выключна як дзяржава.

Выхаванне дэмакратычнай грамадзянскасці расстаўляе акцэнты некалькі інакш. Не адмаўляючы значнасці грамадскіх і дзяржаўных інтарэсаў, яно робіць індывіда непасрэдным удзельнікам палітычных падзей. Гэта дае магчымасць грамадзяніну адчуць сябе творцам, гаспадаром сваёй краіны. Грамадзянскасць — гэта якасць, уласцівая членам грамадзянскай супольнасці, якая самастойна вызначае сваё цяперашняе і будучае. Адпаведна і адказнасць за лёс дзяржавы нясуць самі яе грамадзяне. У аснове гэтага падыходу ляжыць разуменне дзяржавы, распрацаванае ў рамках палітычнай філасофіі Д.Лока. Згодна з гэтай канцэпцыяй грамадства з'яўляецца сферай рэалізацыі натуральных, уласцівых чалавеку ад нараджэння правоў і свабод. Важнейшымі з іх з'яўляюцца права на жыццё, свабоду, уласнасць. Шляхам грамадскага дагавору грамадзянскае грамадства стварае дзяржава. Гэта значыць арганізацыю, якая павінна забяспечваць і абараняць фундаментальныя правы і свабоды сваіх грамадзян. Менавіта таму дзяржава служыць грамадству і індывіду, а не наадварот.

## Грамадзянскае грамадства

Грамадзянскае грамадства ўяўляе сабой сукупнасць не апасродкаваных дзяржавай сувязей і адносін паміж індывідамі, а таксама іх добраахвотнымі аб'яднаннямі, партыямі, рухамі. У адрозненне ад дзяржавы ў ім пераважаюць не вертыкальныя (панавання і падначалення, начальнік і падначалены), а гарызантальныя (супрацоўніцтва, саперніцтва, канкурэнцыя, салідарнасць) сувязі. Члены грамадзянскага грамадства роўныя адзін перад адным у плане валодання асноўнымі правамі і свабодамі, а таксама ў плане незалежнасці ад дзяржаўнага ўмяшання ў асабістае жыццё. Залогам такой незалежнасці з'яўляецца валоданне і свабоднае распараджэнне ўласнасцю — матэрыяльнай і інтэлектуальнай. Нерухомая маёмасць, адукацыя ці проста здольнасці да той ці іншай справы даюць магчымасць індывіду забяспечыць сабе сродкі для існавання, не азіраючыся на дзяржаву, не карыстаючыся яе дабрачыннасцю і, адпаведна, пазбягаючы яе апекі.

Узнікненне грамадзянскага грамадства ўяўляе сабой заканамерны этап у развіцці заходняй цывілізацыі. Яго ўзнікненне супадае з развіццём капіталізму і яго галоўнай рухаючай сілы — буржуазіі. Менавіта дзякуючы знішчэнню саслоўяў, цэхаў, карпарацый, прывілей паявіліся ўмовы для развіцця свабоднага індывіда. У адносінах паміж членамі грамадства сцвярджаецца прынцып роўнасці перад дзяржавай. Сучаснае грамадзянскае грамадства характарызуецца разгалінаванай сацыяльнай структурай, якая адлюстроўвае ўсю разнастайнасць узнікаючых у ім сувязей і адносін паміж свабоднымі грамадзянамі. Гэта поле рэалізацыі палітычнай і эканамічнай свабоды асобы, узаемадзеяння народжаных гэтай свабодай палітычных і эканамічных аб'яднанняў, партый, рухаў, груп і іншых арганізацый. Дзякуючы ўключанасці ў гэтыя арганізацыі індывід не адзінокі перад тварам больш арганізаванай улады. Як гэта мае месца, напрыклад, ва ўмовах таталітарнай дзяржавы, якая ажыццяўляе татальны кантроль над асобай ва ўсіх сферах яе жыццядзейнасці.

> *Цяжкасць свабоды абумоўлена неабходнасцю выбіраць. Бо дэмакратыя — гэта не толькі магчымасць, але і неабходнасць выбару.*

Грамадзянскае грамадства як сукупнасць свабодных і незалежных уласнікаў нараджае паняцці "грамадзянін" і "грамадзянскасць". Валодаць грамадзянскасцю — гэта значыць разумець, што ад твайго ўдзелу ў грамадскіх справах нешта залежыць. Дэмакратычная грамадзянскасць не выключае ахвярнасці асабістымі інтарэсамі дзеля грамадскіх. Прынамсі, калі гаворка ідзе аб пагрозе існуючаму парадку, дэмакратычным каштоўнасцям і інстытутам. Як паказвае гісторыя, часцей за ўсё падобная небяспека выходзіць ад самой улады. Менавіта таму грамадзянская адукацыя ва ўмовах дэмакратыі выхоўвае ў грамадзян крытычнае стаўленне да ўлады, а таксама здольнасць да самакіравання. Такі падыход не азначае паслаблення кіруемасці грамадства, бо галоўны інструмент падтрымання парадку — закон — застаецца непахіснай каштоўнасцю прававой свядомасці грамадзян. Улада — гэта людзі, значыць, яны могуць памыляцца і злоўжываць сваім службовым становішчам. Закон выступае гарантам справядлівасці ў сацыяльных адносінах. Важнейшым механізмам кантролю грамадзянскага грамадства над дзяржавай выступаюць свабодныя сродкі масавай інфармацыі. Яны не толькі выяўляюць грамадскую думку, але і забяспечваюць публічнасць палітыкі, яе "празрыстасць" для староннягa назіральніка. Не выпадкова яе называюць "чацвёртай" уладай. У сучасным дэмакратычным грамадстве магчымасць апублікаваць, г.зн. зрабіць нешта здабыткам грамадскасці, азначае магчымасць кантраляваць.

Важнейшым сродкам выхавання дэмакратычнай грамадзянскасці з'яўляецца практычнае далучэнне індывіда да грамадзянскай супольнасці, яго рэальны ўдзел у справах дзяржавы, абшчыны, раёна, школы. Нельга стаць грамадзянінам, не адчуўшы "смаку" дачынення да сацыяльнай творчасці. Не выпадкова ў краінах, дзе навучанне дэмакратыі мае даўнія традыцыі, такая пільная ўвага ўдзяляецца менавіта мясцоваму самакіраванню. У сярэдняй школе сапраўднай "школай" дэмакратыі можа стаць школьнае самакіраванне, а таксама розныя формы ўнутрыкласнай работы. У тым выпадку, канечне, калі яны становяцца праявай асабістай ініцыятывы.

## Патрыятызм

Сувязь паміж грамадзянінам і дзяржавай шматбаковая і не заўсёды рацыянальная. Акрамя розуму і логікі яна абапіраецца на эмоцыі, пачуцці, прывязанасці, якія ўзнікаюць у чалавека ў адносінах да месца свайго нараджэння і жыхарства. Патрыятызм — гэта любоў да Радзімы, якая мае ў сваёй аснове пачуццё законнага гонару за свой народ, яго культуру і гісторыю. Не выпадкова адным з самых распаўсюджаных спосабаў выхавання патрыятызму ў школьнікаў было і будзе вывучэнне гісторыі Айчыны. Дэмакратычная грамадзянскасць прыўносіць у традыцыйнае разуменне патрыятычнасці некаторыя асаблівасці. Яна не мае нічога агульнага з тым "ура-патрыятызмам", для якога ўсё "сваё" лепш, чым "чужое", і які не садзейнічае, а, хутчэй, перашкаджае развіццю краіны. Такога роду патрыятызм нярэдка прыводзіў як да ўнутры-, так і да знешнепалітычных канфліктаў. Сляпая любоў да чаго б там ні было, у тым ліку і да Бацькаўшчыны, прыводзіць да непажаданых вынікаў. Прававая дэмакратычная дзяржава выхоўвае крытычна мыслячую асобу, зацікаўленую ў своечасовым выяўленні і выпраўленні існуючых у грамадстве недахопаў. Любоў да сваёй Бацькаўшчыны вымушае патрыёта гаварыць праўду, якой бы непрыемнай яна ні была. Дэмакратычны патрыятызм, таксама як і сапраўднае сяброўства, свабодны ад крывадушнасці і паказухі. Яго выхаванне немагчыма без ведання гісторыі сваёй краіны, аднак роля і змест гісторыі значна змяняюцца. Патрыёта фарміруе не столькі ўхваленне гераічнага мінулага, колькі гонар за сучаснае. Гонар за тое, што яго краіне ўдалося стварыць і захаваць існуючыя дэмакратычныя інстытуты, напоўніць рэальным зместам правы і свабоды грамадзян, забяспечыць высокі ўзровень матэрыяльнага дабрабыту. Канстытуцыя, механізм раздзялення ўлады, мясцовае самакіраванне, свабода слова — усё, чым ганарацца грамадзяне дэмакратычнай дзяржавы, можа служыць для падрастаючага пакалення сродкам выхавання патрыятызму.

> *Уменне і жаданне скарыстацца сваімі правамі мае сваёй перадумовай прызнанне такіх жа правоў за іншымі людзьмі.*

## Правы чалавека

Значэнне, якое мае для фарміравання дэмакратычнай грамадзянскасці ідэя правоў чалавека, пераацаніць немагчыма. Канцэпцыя натуральных правоў і цесна звязаная з ёй тэорыя грамадскага дагавору тлумачаць прыроду дзяржавы, акрэсліваюць рамкі ўзаемаадносін асобы і ўлады. Прыярытэт правоў чалавека дакладна расстаўляе акцэнты, даючы зразумець, "хто ёсць хто" ў гэтай звязцы. Сэнс дзяржавы — у служэнні інтарэсам індывіда, у абароне і забеспячэнні яго фундаментальных правоў і свабод. Сукупнасць грамадзян, якая называецца грамадзянскім грамадствам, кантралюе дзяржаву па частцы выканання ўскладзеных на яе абавязкаў. Згодна з вобразным параўнаннем аднаго з класікаў палітычнай думкі Джона Лока, грамадства можна параўнаць з коннікам, які мяняе свой капялюш (дзяржаву), калі ён яго не задавальняе.

У дэмакратычным грамадстве навучанне правам чалавека ўяўляе сабой важнейшую частку сістэмы грамадзянскай адукацыі. Яно дае грамадзяніну веды і ўменні, якія даюць магчымасць ладзіць свае адносіны з дзяржавай на прававой аснове. Дзякуючы гэтаму індывід атрымлівае гарантыі абароны як ад самавольства злачынцы, так і ад самавольства самой улады. Правы чалавека ўяўляюць сабой сарцавіну сучаснай дэмакратыі, з'яўляюцца сродкам прымірэння прыватных і грамадскіх інтарэсаў, меншасці і большасці. Прычым было б вялікай памылкай трактаваць меншасць як найбольш забяспечаную частку грамадства, якая прэтэндуе на нейкія прывілеі. Якраз наадварот. Ва ўмовах заходняй дэмакратыі меншасцю аказваюцца найменш прыстасаваныя і найбольш слабыя ў эканамічных адносінах слаі насельніцтва. Сярод іх — расавыя, нацыянальныя, палавыя, узроставыя і любыя іншыя сацыяльныя групы. Адна з важнейшых задач сучаснай дэмакратыі — не дапусціць іх дыскрымінацыі, забяспечыць усім роўныя магчымасці і ўмовы рэалізацыі сваіх здольнасцей. Тое ж самае можна сказаць і ў адносінах да кожнай асобы. Пры адсутнасці надзейных прававых гарантый яе інтарэсы вельмі часта прыносяцца ў ахвяру інтарэсам грамадства ці калектыву, а воля пераважнай большасці лёгка падаўляе волю аднаго. Асабліва калі гаворка ідзе пра творчую і неардынарную асобу. На працягу сваёй шматвяковай гісторыі грамадства не раз паказвала сваю нецярпімасць у адносінах да іншадумства, іншай веры, ды і проста да арыгінальнасці, неадпаведнасці агульна прынятым канонам і ўзорам паводзін. Ідэалогія натуральных правоў лічыцца найбольш гуманнай з усіх традыцыйных палітычных ідэалогій. У вызначэнні грамадства і дзяржавы яна зыходзіць з інтарэсаў чалавека (незалежна ад яго нацыянальнасці, веры, полу, перакананняў), а не якога-небудзь асобнага класа ці сацыяльнай групы.

Адукацыя ў галіне правоў чалавека павінна не толькі пазнаёміць асобу з асноўнымі правамі і свабодамі, гарантаванымі Канстытуцыяй дзяржавы, але і сфарміраваць асобасныя якасці, без якіх гэтыя правы не могуць быць рэалізаваны. Правы асобы набываюць сэнс толькі тады, калі ёсць той, каго можна назваць асобай, г.зн. індывід, здольны да самастойнага рашэння і адказнасці. Веданне правоў і свабод — толькі пачатковы этап у іх асваенні. Неабходна, каб яны сталі для чалавека часткай яго светапогляду. Далёка не кожны гатовы скарыстацца сваімі правамі, таму што гэта даволі клапатліва, а часам і небяспечна. Свабода заўсёды больш небяспечная, чым рабства. Выхаванне ў духу свабоднай рэалізацыі правоў чалавека мае сваёй перадумовай фарміраванне пачуцця асабістай годнасці, нецярпімасці да насілля.

У шырокім сэнсе слова правы чалавека — гэта светабачанне і светаадчуванне, якое вызначае паводзіны індывіда ў побыце, у школе, у сацыяльнай групе, у грамадстве. Адной з характэрных асаблівасцей такіх паводзін з'яўляецца недатыкальнасць асабістага жыцця ці, як гавораць амерыканцы, пачуццё "прыватнасці". Яно грунтуецца на нецярпімасці да насілля і бестактоўнасці, у якой бы форме яны ні выяўляліся. Уключаючы і скрытае насілле, якое так ці інакш праяўляецца ў "беспардонным" пытанні, нясветлівым звароце. Уменне і жаданне скарыстацца сваімі правамі мае сваёй перадумовай прызнанне такіх жа правоў за іншымі людзьмі. Для гэтага неабходна навучыцца сувымераць сваю свабоду са свабодай іншага чалавека, быць адказным за свае ўчынкі і цярпімым у адносінах да ўчынкаў іншых. Талерантнасць — гэта здольнасць дазволіць другому чалавеку быць іншым. Дазволіць яму ў нечым, а можа і ў многім, быць не падобным да цябе. Чалавецтва прайшло доўгі шлях, перш чым выпрацавала здольнасць цярпіма ставіцца да "іншага". Сёння ў нашым лексіконе трывала сцвердзіліся такія словы, як *кампраміс* і *кансэнсус*. І гэта ў многім дзякуючы ідэі правоў чалавека. Па сутнасці яна вызначае светапогляд сучаснай эпохі, калі культурная, рэлігійная, палітычная, нацыянальная і іншая разнастайнасць з'яўляюцца не падставай для канфрантацыі, а тэмай для дыялогу.

## Дэмакратыя

Дэмакратыя ўяўляе сабой бадай ці не самы складаны і супярэчлівы феномен палітычнага жыцця. Сведчанне таму — яе шматлікія азначэнні і ацэнкі — ад надта хвалебных да знішчальна крытычных. Уся справа ў тым, што яна распрыгоньвае дрымотныя сілы ў грамадстве, дае магчымасць праявіцца як пазітыўнаму, так і негатыўнаму. Некалі, на світанку чалавечай цывілізацыі, дэмакратыя разумелася даволі вузка, г.зн. выключна як форма арганізацыі ўлады. Яе сучаснае разуменне намнога шырэйшае і глыбейшае. Акрамя магчымасцей, якія прадастаўляюцца большасці насельніцтва па ўдзелу ў кіраванні дзяржавай, яна стварае ўмовы для ўсебаковага развіцця асобы, максімальнай рэалізацыі яе здольнасцей. Сучасная дэмакратыя абазначае спосаб арганізацыі ўсяго грамадскага жыцця. Яе сістэмаўтваральным прынцыпам з'яўляецца плюралізм. У працэсе сваёй шматвяковай гісторыі дэмакратыя роўнасці ператварылася ў дэмакратыю свабоды. Яе галоўнай задачай сёння становіцца не столькі забеспячэнне большай роўнасці, колькі ўмоў для рэалізацыі свабоды. Дэмакратыя — гэта перш за ўсё свабодны выбар ва ўсіх сферах грамадскага жыцця — эканоміцы, палітыцы, культуры. Дзяржава забяспечвае ўмовы для гэтага выбару, звяртаючы асаблівую ўвагу на шанцы і магчымасці абяздоленых слаёў насельніцтва.

Сама па сабе дэмакратыя — не дрэнная і не добрая. Яна такая ж, як і грамадства, у якім яна сцвярджаецца. Вось чаму для дзяржаў, якія не маюць грамадзянскай палітычнай культуры, дэмакратызацыя грамадскага і дзяржаўнага жыцця часцей за ўсё прыводзіць да анархіі. Моцныя бакі дэмакратыі — свабода, рынак, суверэнітэт народа — без спецыяльных "страхуючых" механізмаў тыпу вяршэнства закону, рэальнай канкурэнцыі, правоў асобы лёгка ператвараюцца ва ўласную процілегласць. Адсюль і характэрныя для постперабудовачнага перыяду развіцця збядненне насельніцтва, папулізм палітыкаў, усёдазволенасць алігархаў. Адной з самых драматычных супярэчнасцей сучаснай дэмакратыі з'яўляецца калізія паміж інтарэсамі асобы і грамадства, правамі чалавека і воляй большасці. У свой час яна стала асновай для станаўлення таталітарнай дзяржавы, калі інтарэсы асобнага чалавека прыносіліся ў ахвяру грамадскім і дзяржаўным мэтам. "Пераважная" большасць падтрымлівала харызматычнага лідэра, апраўдваючы рэпрэсіі супраць "ворагаў народа". Сучасная заходняя дэмакратыя выпрацавала механізмы, якія страхуюць яе ад магчымай дыктатуры, у тым ліку і ад дыктатуры большасці. Сёння дэмакратыю нельга ўявіць без прызнання прыярытэту правоў асобы, без іх прававой гарантыі і забеспячэння з боку дзяржавы і міжнародных арганізацый.

## Навучанне дэмакратыі

Важнейшым фактарам стабільнасці дэмакратыі з'яўляецца прававая і палітычная культура насельніцтва. Палітычная адукаванасць грамадзян забяспечвае свядомую падтрымку існуючага парадку, а прыхільнасць да базавых дэмакратычных каштоўнасцей дапамагае захаваць дэмакратычныя інстытуты. Павышаная ўвага да палітычных ведаў абумоўлена ўнутранай супярэчнасцю дэмакратычнай формы кіравання. Адзін з яе парадоксаў заключаецца ў тым, што дэмакратычным шляхам да ўлады могуць прыйсці далёка не дэмакратычныя сілы. Права, якое даецца грамадзянам па ўдзеле ў кіраванні дзяржавай, яшчэ не азначае абавязковасці такога ўдзелу. Гэта значыць, што ва ўмовах палітычнай пасіўнасці большасці насельніцтва ля ўлады могуць аказацца прадстаўнікі невялікай, але добра арганізаванай групоўкі якога-небудзь экстрэмісцкага накірунку. Тым самым дэмакратыя можа жорстка паплаціцца за прадастаўленую грамадзянам свабоду. У такім выпадку адна з самых дэмакратычных па сваёй сутнасці працэдур можа прывесці да адмаўлення ад дэмакратычных заваёў на карысць аўтарытарызму. Падобныя "слабыя" месцы дэмактарыі робяць яе небяспечнай для самой сябе. Сучасная заходняя дэмакратыя выпрацавала эфектыўныя механізмы кантролю і абмежавання ўлады, павышэння эфектыўнасці яе функцыянавання. Сярод іх — раздзяленне ўлады, палітычная апазіцыя, свабодныя сродкі масавай інфармацыі.

Адным з важнейшых механізмаў захавання дэмакратыі стала сістэма грамадзянскай адукацыі. Яе мэта — даць грамадзяніну неабходныя веды, а таксама сфарміраваць пэўныя каштоўнасныя прыярытэты і навыкі ўдзелу ў палітычным і сацыяльным жыцці. Дэмакратыя — гэта не гадзіннік, заведзены на ўсе часы. Прыходзяць новыя пакаленні, для якіх каштоўнасці дэмакратыі яшчэ не сталі важнымі. У іх няма "імунітэту" супраць экстрэмізму, яны не "перахварэлі" на камунізм і сацыялізм. Патрэбна карпатлівая выхаваўчая работа, каб зрабіць для дзяцей важным тое, што даўно стала відавочным для іх бацькоў.

Сітуацыя ў сучаснай Беларусі па шэрагу параметраў істотна адрозніваецца ад той, што мае месца ў краінах развітай дэмакратыі. Яна характэрна для большасці трансфармацыйных краін, г.зн. да тых, якія знаходзяцца ў працэсе дэмакратызацыі. Для пераважнай большасці дарослага насельніцтва дэмакратычныя каштоўнасці пакуль што не сталі прыярытэтнымі. Нам яшчэ трэба стварыць тое, што можна было б захоўваць і перадаваць наступным пакаленням. А пакуль што менавіта моладзь, будучы больш мабільнай і ўспрымальнай да новага, хутчэй і лягчэй адаптуецца да ўмоў рыначнай эканомікі і засвойвае каштоўнасці "адкрытага" грамадства. Гэтая акалічнасць накладвае на дарослых, асабліва на педагогаў, дадатковую адказнасць за ўласны духоўны і інтэлектуальны рост. Сёння ім даводзіцца займацца самаўдасканаленнем і нават самаперавыхаваннем. У адваротным выпадку яны рызыкуюць аказацца не зразуметымі, і іх спробы выхоўваць грамадзяніна будуць асуджаны на правал. Ды і як можна пераканаць некага ў тым, у што і сам не верыш?

Грамадзянская адукацыя ў дэмакратычным грамадстве — гэта сістэма навучання дэмакратыі. Яна мае сваёй перадумовай "уцягненне" індывіда ў грамадства, навучанне жыццю ва ўмовах свабоды. Цяжкасць свабоды абумоўлена неабходнасцю выбіраць. Бо дэмакратыя — гэта не толькі магчымасць, але і неабходнасць выбару. Нежаданне ці няўменне рабіць выбар — у палітыцы, эканоміцы, культуры, ва ўзаемінах — ператварае індывіда ў марыянетку, робіць яго аб'ектам маніпуляцый і інтрыг. Калі вы не выбіраеце — за вас гэта робяць іншыя. І дзе гарантыя, што вашы інтарэсы пры гэтым будуць улічаны. Навучыць грамадзяніна рабіць свядомы выбар можна толькі ва ўмовах максімальнага развязвалення яго творчых здольнасцей. Менавіта таму ў працэсе навучання дэмакратыі асаблівая ўвага ўдзяляецца форме арганізацыі заняткаў. Пытанне "як вучыць" становіцца пры гэтым не менш важным, чым пытанне "чаму вучыць". Форма ўжо сама па сабе з'яўляецца зместам, калі яна служыць асноўным мэтам навучання, калі яна мае сваёй перадумовай дыялог, рэфлексію, свабоднае абмеркаванне праблемных сітуацый, гульню. Такое навучанне выключае навязванне гатовых схем і рашэнняў. Навучыць дэмакратыі — значыць дапамагчы вучню самастойна знайсці вырашэнне той ці іншай грамадскай праблемы. У такім выпадку і далей ён зможа самастойна знаходзіць выйсце са складаных жыццёвых сітуацый. Менавіта таму тэматыка заняткаў практычна не абмяжоўваецца. Гэта могуць быць праблемы ўлады і дзяржавы, палітыкі і права, насілля ў школе і грамадстве, багацця і беднасці, роўнасці і няроўнасці, грошай, тэлебачання, вольнага часу, дружбы і кахання. Гэта значыць прадметам абмеркавання становіцца ўсё, што так ці інакш садзейнічае сацыялізацыі індывіда, яго паступоваму "ўцягненню" ў грамадства. А грамадскія праблемы, як вядома, ніколі не вызначаліся прастатой і адназначнасцю.

**Вячаслаў БАБРОВІЧ,**
**кандыдат філасофскіх навук,**
**дацэнт кафедры паліталогіі і сацыялогіі**
**Рэспубліканскага інстытута**
**вышэйшай школы БДУ.**

